БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

*5 лютага 1994 г.*

*Субота*

*№ 14(13730)*

Кошт у розніцу 20 рублёў

Выдаецца з 1921 года

**У НУМАРЫ:**



*Малюе Віктар ДУБОВІК*

**ІЗНОЎ ПРАЛЕТАРЫЯТУ НЯМА ЧАГО ГУБЛЯЦЬ.**

Фота Віктара ДРАЧОВА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### СТОП-ФАКТ

### У чаканні стачкі

***2 лютага ў Мінску адбылося пасяджэнне савета Рэспубліканскага стачачнага камітэта.***

Разгледжана пытанне аб правядзенні ўсебеларускай палітычнай стачкі. Як заявіў лідэр свабоднага прафсаюза Беларусі Генадзь Быкаў, пры 20 "за" і адным устрымаўшымся савет прыняў рашэнне аб аб'яўленні з шасці гадзін 15 лютага бестэрміновай палітычнай стачкі. Паводле слоў Быкава, выстаўлены тры патрабаванні: адстаўка ўрада, фарміраванне кааліцыйнага ўрада народнага даверу і датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Рэспубліканскі стачкам мае намер таксама вывесці бастуючых 15 лютага на Плошчу Незалежнасці. "Гэты дзень пакажа, наколькі людзям надакучала існуючае становішча. На дапамогу беларускай інтэлігенцыі мы не разлічваем", - падкрэсліў Генадзь Быкаў.

* * *

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслаў Грыб 2 лютага даў даручэнне выконваючаму абавязкі старшыні КДБ Беларусі Генадзю Лавіцкаму разабрацца з рашэннем Рэспубліканскага стачачнага камітэта, у якім, на яго думку, змяшчаецца заклік да гвалтоўнага звяржэння ўлады. Спікер парламента лічыць, што, "калі ў гэтым пытанні ёсць крымінал, то сумесна з пракуратурай павінна быць узбуджана крымінальная справа і праведзена расследаванне".

БЕЛІНФАРМ.

### Прафсаюзы мяняюць тактыку

***Не дачакаўшыся ад Вярхоўнага Савета і ўрада разгляду патрабаванняў працоўных калектываў 176 прамысловых прадпрыемстваў, якія прымалі ўдзел 12 студзеня ў акцыі пратэсту "Не — абнішчанню народа!", лідэры рэспубліканскіх прафсаюзаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, радыёэлектроннай, абароннай і авіяцыйнай прамысловасці накіравалі заявы ў адрас Старшыні Вярхоўнага Савета М.Грыба і прэм'ер-міністра В.Кебіча.***

У іх, у прыватнасці, канстатуецца, што Вярхоўным Саветам і ўрадам праігнараваныя патрабаванні працоўных, якія прымалі ўдзел у акцыі пратэсту; прызначыць датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет і правесці іх не пазней чым у сакавіку 1994 года, палепшыць сацыяльна-эканамічнае становішча працоўных і г.д. Лідэры прафсаюзаў ацанілі маўчанне ўрада як парушэнне заканадаўства аб разглядзе калектыўных працоўных спрэчак і заяўляюць аб гатоўнасці адстойваць патрабаванні людзей працы ўсімі наяўнымі формамі і сродкамі.

* * *

Рэспубліканскі савет стачкамаў Беларусі звярнуўся да ўсіх прафсаюзаў, партый і рухаў з прапановай правесці 7 лютага кансультацыйную нараду.

БелаПАН.

### Карпенка – за выбары

***"Эканамічнае паляпшэнне немагчыма без рэзкага скарачэння многіх сацыяльных праграм", — такая думка была дамінiруючай на прэс-канферэнцыі кіраўнікоў Партыі народнай згоды.***

Яе лідэр Г.Карпенка выступае за неабходнасць правядзення прэзідэнцкіх выбараў. Такія выбары павінны быць усенароднымі, а не праходзіць толькі ў межах Вярхоўнага Савета. ПНЗ заявіла таксама аб сваёй падтрымцы забастовачнага руху прафсаюзаў.

Лідзія РЫЖАНКОВА.

### Новыя сюрпрызы – нам рыхтуюць візы

***На наступным тыдні ў Вільнюсе адбудзецца сустрэча дэлегацый міністэрстваў замежных спраў Беларусі і Літвы.***

Мяркуецца, што пад час сустрэчы будзе абмеркаваны праект пагаднення аб спрашчэнні парадку пропуску праз дзяржаўныя межы.

Праект гэтага пагаднення планавалася абмеркаваць 1-2 лютага, калі ў Мінску знаходзілася дэлегацыя Міністэрства замежных спраў Літвы. Аднак, як паведамілі ў консульска-прававым аддзеле МЗС Беларусі, па гэтым дакуменце як у беларускага, так і ў літоўскага боку назіраецца шэраг істотных рознагалоссяў. У той жа час, у ходзе мінскай сустрэчы была дасягнута згода практычна па ўсіх пунктах праекта пагаднення аб узаемных паездках грамадзян. Гэты дакумент, у прыватнасці, прадугледжвае бязвізавы рэжым перасячэння мяжы для членаў экіпажаў паветраных суднаў, лакаматыўных і рэфрыжэратарных брыгад, асоб, якія дасягнулі 65 гадоў, а таксама тых, хто выязджае на лячэнне, шэрагу іншых катэгорый грамадзян.

Мяркуецца, што візавы рэжым для грамадзян, якія наведваюць Літву, будзе ўведзены з 1 сакавіка бягучага года.

БелаПАН.

### Баліць Афган у сэрцы

***У Беларусі праходзіць рэспубліканскі фестываль песні "З полымя Афганістана", прысвечаны памяці сыноў Беларусі, што загінулі ў гэтай вайне.***

Учора і сёння праходзіць рэгіянальны тур гэтага фестывалю ў памяшканні сталічнага Палаца культуры ВТА імя Ц.Я.Кісялёва.

Арганізатарамі акцыі выступілі Саюз ветэранаў Афганістана і Парламенцкая арганізацыя моладзі Фрунзенскага раёна беларускай сталіцы.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

### Сенсацыя ў Брэсце

***У цэнтры Брэста будаўнікі, якія працавалі на ўзвядзенні магазіна малога прадпрыемства "Бусел", знайшлі склад боепрыпасаў.***

Група размініравання, што прыбыла на месца здарэння, раскапала 25 гранат Ф-1, больш як дзесяць процітанкавых гранат і амаль чатыры скрынкі патронаў, што ляжалі тут з часоў апошняй вайны. Боепрыпасы былі вывезены за горад і ўзарваны. Сама ж падзея, якая ўстрывожыла грамадзян, атрымала нечаканы працяг. Як паведаміла газета "Вечерний Брест", чыя рэдакцыя размешчана побач з месцам, дзе знайшлі боепрыпасы, цікавую версію выказаў вядомы ў горадзе архітэктар, кіраўнік творчай майстэрні пры Саюзе архітэктараў Беларусі Міхаіл Гайдуковіч. На яго думку, экскаватар, а затым і сапёры знайшлі пачатак падземнага ходу, што вядзе ў Брэсцкую крэпасць. Сам Міхаіл Міхайлавіч доўгі час займаўся пошукам трох падземных хадоў у крэпасць, аб якіх гаворыцца ў навуковай літаратуры. Расказы старажылаў, з якімі яму давялося сустракацца і якіх цяпер ужо няма сярод жывых, пацвярджалі яго меркаванне, што адзін з тунеляў пачынаецца прыкладна ў гэтым месцы.

БЕЛІНФАРМ.

### Недалёт

***За лічаныя хвіліны даляцела 3 лютага ў Мінск навіна, што ў далёкім Растове-на-Доне тэрарыстамі захоплены пасажырскі самалёт з дзецьмі на борце. Узброеныя выбуховымі ўстройствамі і гранатамі тэрарысты запатрабавалі ад Міністэрства замежных спраў Расіі тэхнічнай пасадкі ў Мінску.***

Чаму менавіта Мінск? Хутчэй за ўсё таму, што тут тэрарысты збіраліся дазаправіць самалёт, каб рушыць далей, а магчыма хацелі яшчэ і нечага запатрабаваць.

У тэрміновым парадку беларускі парламент на вячэрнім пасяджэнні даў дазвол на пасадку самалёта ў аэрапорце "Мінск-2". Авіятары Беларусі і прадстаўнікі спецслужбаў падрыхтаваліся да сустрэчы, якая павінна была адбыцца ў 18.30.

Але самалёт, на шчасце, не прыляцеў. Тэрарыст (ім аказаўся М.Скварцоў) быў абясшкоджаны і затрыманы спецслужбамі Расіі ў аэрапорце Растова-на-Доне. Дзеці вызвалены. Усе, дзякуй Богу, жывыя і здаровыя.

Франц ЛЯВІЦКІ.

**Курсы валют на 4 лютага:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 5950(6188) | 6200 | 3430(3567) | 3570 |
| "Бел-бізнесбанк" | 5700 | 6100 | 3300 | 3500 |
| "Прыор" | 5850 | 6050 | 3240 | 3490 |

*(У дужках —курс за безнаяўны разлік)*

### РЭПЛІКА

### Сустрэліся сын графа з сынам юрыста

***Незабыўная сустрэча двух энергічных змагароў за ўладу адбылася днямі ў Варшаве, дзе перакрыжаваліся шляхі А.Прушынскага і У.Жырыноўскага.***

Апошні не манкіруе ніякай магчымасцю, асабліва такой, як круіз па Еўропе, каб даваць прагным да сенсацый журналістам скандальныя, свядома накіраваныя на адыёзную папулярнасць інтэрв'ю. Тэрытарыяльны размах ягоных заяў не стрымлівае нават раскошны думскі мандат, які як-ніяк абавязвае да пэўнай карэктнасці дзяржаўнага чалавека такога высокага кшталту.

Цалкам натуральна, што лаўры У.Жырыноўскага — шчаслівага пераможца ў перадвыбарнай барацьбе — не даюць спакойна спаць сямутаму, хто таксама не супраць упрыгожыць сабой парламент, ну, хоць той жа Беларусі.

Як паведаміла давераная асоба А.Прушынскага, менавіта з такой прычыны — даведацца, як падабраць ключык да народнага сэрца — і сустракаўся граф з Жырыноўскім. Цікавая дэталь: Жырыноўскі, як вядома, марыць зрабіць Беларусь расійскай губерняй, а ў праграме Прушынскага — далучэнне да Беларусі Смаленскай і Разанскай абласцей.

Абмываць беларускую бульбу ў водах Індыйскага акіяна Прушынскі пакуль не абяцае.

Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ.

### ВЕСТКІ З ПАРЛАМЕНТА

# Зацішша перад бурай?

□ **Вольга ШАЎКО, "ЧЗ"**

Гэты тыдзень для Вярхоўнага Савета прайшоў у вельмі спакойнай абстаноўцы. Такое склалася ўражанне знешне. Але як самі дэпутаты ацэньваюць плён сваёй работы, як працавалася ім разам з новым Старшынёй? Прапануем думкі некаторых з іх.

**Уладзімір ГРЫБАНАЎ:**

— Я б увогуле не ацэньваў работу сесіі ў сувязі з заменай Старшыні Вярхоўнага Савета. Таму што гэта нічога не змяніла і не зменіць. Наша сесія ідзе дружным маршам у тупік. Пацверджанне гэтага — чацвер, калі а палове другога дня высветлілася, што на пасяджэнні ў Авальнай зале былі 203 народныя дэпутаты, а для кворуму неабходна прысутнасць 231.

Але справа нават не ў тым, што адбываецца ў нас у зале, што хтосьці не прысутнічае, ігнаруе пасяджэнні, бяда ў іншым. Усе падспудна адчуваюць трывогу, прычым абгрунтаваную, за сітуацыю ў рэспубліцы, якая развіваецца не ў лепшы бок. Зараз на мяжы спынення знаходзяцца такія прамысловыя гіганты, як АўтаМАЗ, трактарны завод. Прычын таму шмат, і яны ўвязаны ў цэлы комплекс праблем. І самае галоўнае, што вышэйшыя ўлады рэспублікі не бачаць выйсця з сітуацыі. Наспявае прадчуванне нейкага шоку. Адна з праяў гэтага — і адсутнасць кворуму, і нежаданне прымаць удзел у заканатворчай дзейнасці.

Мяне трывожыць тое, што я, народны дэпутат, не разумею, што адбываецца ў рэспубліцы, што нас чакае далей.

**Мікалай ГРЫНЁЎ:**

— Работа ідзе нармальна. Напрыклад, у сераду за адзін дзень было прынята 7 законаў. Аднак дрэнна, што ў Вярхоўным Савеце яшчэ бушуюць палітычныя страсці, асабліва, калі прымаюцца законы палітычнай накіраванасці. Там жа, дзе ідзе абмеркаванне эканамічных, дэбаты праходзяць больш-менш нармальна.

Прыемна, на мой погляд, што скончылася канфрантацыя паміж Старшынёй Вярхоўнага Савета і Старшынёй Савета Міністраў. Пра гэта сведчыць і тое, што Мечыслаў Грыб запрасіў нас, старшынь абласных саветаў, на сумеснае пасяджэнне прэзідыума ВС і ўрада. Гэта зроблена ўпершыню, за тры гады нас ніхто ні разу не збіраў. Я лічу гэта пазітыўным момантам.

**Васіль ШАЧАК:**

— Я не задаволены арганізацыйнай работай сесіі. Новы Старшыня мае тую ж хваробу, што і ранейшы. Ён нядольны арганізаваць работу сесіі. У чацвер за паўгадзіны да абедзеннага перапынку высветлілася, што ў зале прысутнічае крыху больш чым 200 дэпутатаў. На мой погляд, трэба брацца за дысцыпліну. І чалавек, які ўсё жыццё меў справу з дысцыплінай, павінен рабіць захады, каб навесці парадак у Вярхоўным Савеце.

А ўвогуле, абмяркоўваюцца законы не асабліва важныя, хаця і больш-менш прафесійна падрыхтаваныя.

Адчуваецца апатыя залы пасля барацьбы, што адбылася на мінулым тыдні. Бачна нейкая нежаданне займацца звычайнай работай, дэпутаты прывыклі да тлуму, да крыві. Я лічу, што на гэтым тыдні ішла дарэмная работа.

**Лявон ДЗЕЙКА:**

— На мой погляд, як спікер, новы Старшыня яшчэ не набраўся вопыту. І набыць яго ўжо не зможа. Бо такое ўражанне, што Вярхоўны Савет наогул страціў цікавасць і нармальную здольнасць да нармальнай заканадаўчай дзейнасці, да паартыкульнага абмеркавання законаў, праекта пастаноў. Ніхто нічога не слухае. Увесь тыдзень у зале няма кворуму. Апошні забяспечваецца тым, што людзі ціснуць кнопкі за адсутных.

Такое ўражанне, што, стаўшы на шлях нейкага звядзення рахункаў, Вярхоўны Савет здольны забяспечыць актыўнасць толькі тады, калі трэба некага здымаць ці таптаць.

Вярхоўны Савет сябе вычарпаў. Небяспека яго ў тым, што ён стаў антыдзяржаўным, антынародным ён стаў даўно. Ён знаходзіцца ў сітуацыі загнанага ў куток і можа пайсці на непрадказальныя дзеянні, якія прывядуць да значных страт у нашым грамадстве і не толькі эканамічных.



## "Еўраньюс"—"Суперчэннэл"—"Уорлднэт"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С.КІРЫЕНКА, Д.ЛІТВІН, рэдактар П.СІМАНАЎ.*

### ЗША і В'етнам "пасябравалі"?

***Прэзідэнт Клінтан аб'явіў аб спыненні амерыканскага эмбарга ў адносінах В'етнама.***

У ліку іншых крокаў да прымірэння ён абнародаваў рашэнне аб адкрыцці сваіх прадстаўніцтваў у гэтай краіне і, адпаведна, В'етнама ў ЗША. Адмена санкцый, акрамя ўсяго, дасць магчымасць амерыканцам атрымаць інфармацыю пра 2238 сваіх салдат, якія трапілі ў палон або лічацца прапаўшымі без вестак у час в'етнамскай вайны.

### Прэмія за смерць?

***Італьянскія грамадскія арганізацыі заклікалі падтрымаць ініцыятыву па прысуджэнню Нобелеўскай прэміі міру за 1994 год баснійскім дзецям.***

Група маладых католікаў Італіі звярнулася да папы Рымскага з просьбай аб падтрымцы гэтай ініцыятывы. Згодна з афіцыйнымі данымі, больш як 15000 дзяцей было забіта і 35000 паранена ў Босніі з красавіка 1992 года.

### "Узыходзячае сонца" ў космасе

***Японіі нарэшце ўдалося стаць касмічнай дзяржавай.***

Пасля некалькіх затрымак, у сераду яе касмічны карабель стартаваў з аднаго з астравоў у 900 кіламетрах на поўдзень ад Токіо. Запуск прайшоў без ускладненняў. Гэты двухступеньчаты лятальны апарат упершыню запушчаны Японіяй без тэхнічнай дапамогі іншых краін. Кошт праграмы ацэньваецца ў 2,5 млрд. даляраў.

### "Супрацьканверсійная" забастоўка

***Рабочыя польскай ваеннай прамысловасці правялі аднадзённую забастоўку з патрабаваннем аб павелічэнні дзяржаўных субсідый у гэту галіну.***

Яны патрабавалі таксама павышэння зарплаты. Паводле паведамлення агенцтва "Асашыэйдэт прэс", у забастоўцы прынялі ўдзел каля 50000 чалавек. 20 прадпрыемстваў галіны спынілі работу.

*(Працяг на 3-й стар.).*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



### СНЫ ПРА МАДОННУ

*У кнізе К. Цёрнер "Сны пра Мадонну", якая нядаўна выйшла на Захадзе, поп–зорка прадстаўлена ў незвычайных сітуацыях.*

У новым бестселеры жанчыны расказваюць пра свае сны з удзелам Мадонны: Кніга карыстаецца вялікім поспехам.

### "ВІНШАВАННЕ"

*Лех Валенса, прэзідэнт Польшчы, да свайго 50–гадовага юбілею, які адзначаўся напрыканцы мінулага года, атрымаў не толькі падарункі і пажаданні шчасця.*

У "Газеце выборчай" былі апублікаваны пажаданні яго калег па "Салідарнасці". Былы асабісты сакратар Валенсы, напрыклад, заявіў: "Жадаю ад усяго сэрца, каб прэзідэнт зламаў сваю левую нагу па магчымасці за 3 месяцы да наступных выбараў".

### НОБЕЛЕЎСКАЯ ПРЭМІЯ – НЕГРЫЦЯНЦЫ

*Упершыню чорная жанчына атрымала Нобелеўскую прэмію.*

62-гадовая Тоні Морысан адзначана прэміяй у 1,3 мільёна марак за дасягненні ў галіне літаратуры.

### ФЕСТЫВАЛЬ ДЭЛЬФІНАЎ

*Што агульнага ў Моцарта, Дыснея, Гётэ, Энштэйна і дэльфінаў? Усе яны — геніяльныя. Такі адзін з дэвізаў І міжнароднага фестывалю дэльфінаў, які прайшоў у канцы мінулага года ў Германіі.*

Арганізатары гэтага фестывалю, сярод якіх "Грынпіс", хочуць пераказаць свету жыццё 40 дэльфінарыяў, якія цяпер знаходзяцца ў небяспецы.

### САМЫ РАДЫЕАКТЫЎНЫ Ў СВЕЦЕ

*Завод "Маяк" па вытворчасці плутонію, які знаходзіцца за 2000 км ад Масквы, 40 гадоў запар быў галоўным апорным пунктам савецкай атамнай зброі.*

На думку нямецкіх медыкаў, гэты раён недалёка ад мільённага Чэлябінска лічыцца цяпер самым радыеактыўным у свеце.

### ЛЕКАВАЯ... СЛІНА

*Ці даводзілася вам бачыць, як жывёла залізвае свае раны? А ці не задумваліся, чаму? Падобна, што "братам нашым меншым" даўным–даўно вядома тое, пра што мы пачынаем даведвацца толькі сёння.*

Паводле даных групы ізраільскіх урачоў, сліна ўтрымлівае рэчыва, якое спыняе крывацёк. Яно дзейнічае настолькі эфектыўна, што цяпер яго спрабуюць атрымаць штучна.

"Гэта рэчыва ўяўляе сабой натуральны бялок, які ўтвараецца непасрэдна ў роце,— тлумачыць доктар Хэйз, супрацоўнік медыцынскага цэнтра "Хадаса".— Бялок трапляе ў сліну, дзе спалучаецца з іншымі рэчывамі. У сукупнасці яны нейтралізуюць дзеянне рэчываў, якія перашкаджаюць згусанню крыві".

Распрацоўка фармацэўтычных прэпаратаў патрабуе, паводле слоў урача, яшчэ мінімум два гады. Але ўжо цяпер няма сумненняў, што ў выніку праведзенай работы будзе атрыманы эфектыўны кроваспыняльны сродак. Калі гэта адбудзецца, галоўнымі спажыўцамі новага рэчыва будуць не толькі хірургі і стаматолагі, але і хворыя на лейкемію і гемафілію.

### "БЛАКІТНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ" НАСТАЕ?

*Румынскі парламент прагаласаваў за змяненні ў законе аб гомасексуалізме.*

Большасцю галасоў дэпутаты адобрылі папраўку, адпаведна якой гомасексуальныя акты караюцца пазбаўленнем волі толькі ў тым выпадку, калі яны выклікаюць грамадскі скандал, калі ў іх прымаюць удзел непаўналетнія ці калі акты адбываюцца супраць волі аднаго з партнёраў.

### І "ТАМ" ДЭФІЦЫТ?

*Забаронена лоўля траскі для асабістых патрэб па ўсяму ўзбярэжжу Ньюфаўндленда.*

Міністр рыбнай прамысловасці Канады заявіў, што гэта мера неабходная ў сувязі з рэзкім скарачэннем запасаў рыбы і з мэтай устанаўлення больш жорсткага кантролю над "чорным рынкам" траскі, узнікшым у сувязі са спыненнем яе прамысловага адлову.

### ПРЫБОР–ВЫРАТАВАЛЬНІК

*Колькасць наездаў на транспартныя сродкі магла б значна скараціцца, калі б новы прыбор, распрацаваны ў Ізраілі, стаў стандартным абсталяваннем аўтамабіляў.*

Гэты прыбор, атрымаўшы назву кантралэйзер, інфармуе вадзіцеля аб скорасці і адлегласці да транспартнага сродку, які рухаецца наперадзе, а таксама разлічвае, колькі часу спатрэбіцца для таго, каб спыніцца пры самых неспрыяльных абставінах.



**У падборцы выкарыстаны таксама матэрыялы замежнага друку.**

МАРАЛЬНЫ КОДЭКС

# Не падзялілі...

□ Мікола КАПЫЛОВІЧ

У жыцці часта даводзіцца сустракаць не толькі расчараваных, падманутых жанчын, а таксама і мужчын. Хоць і вельмі цяжка бывае вызначыць, па чыёй віне бесклапотнае, здавалася б, сямейнае шчасце зацягнула хмарамі.

Сёння Лена і Сяргей не могуць прыгадаць, што так пераіначыла іх сумеснае жыццё. Магчыма, лепш адказала б на гэта пытанне маці Лены — Ганна Раманаўна, якая пры дробязных спрэчках і вялікіх сварках спрабавала па-свойму "тушыць пажары". Але, апантаная сляпою матчынай любоўю, цвёрда трымала бок дачкі, абвінавачваючы зяця ва ўсіх зямных грахах. Толькі ў вёсцы, як у вёсцы — усе пра ўсё ведалі і меркавалі па-свойму. У адрозненне ад Ганны Раманаўны, не перабольшвалі зяцевай віны. Таму што бачылі: няма ні здрады, ні п'янства. А значыць, нельга ўзвальваць адказнасць толькі на адзін "бок". Не спачувалі аднавяскоўцы ні аднаму і ні другому, спачувалі трэцяму — маленькаму Васільку, які застаўся ў выніку сямейных "разборак" без бацькі.

Як звычайна робіцца ў такіх выпадках, хлопчыка пакінулі з маці, а ўжо яна, распаленая нянавісцю да нядаўняга мужа, увогуле абарвала сувязь паміж ім і сынам. Само сабой, маці любіла сына. Але ж і бацька любіў яго, і, нягледзячы на рашэнне суда, меў такое ж права на выхаванне, як і былая жонка. Лена ж вырашыла проста: калі яны разышліся з Сяргеем, дык няма чаго яму прыходзіць да сына. Маўляў, я і сама ў стане яго выхоўваць.

Аднак і сын, і Сяргей хоць і рэдка, але сустракаліся ўпотайкі ад маці — ніякія хітрыкі Лены і цешчы не маглі перашкодзіць родным сэрцам цягнуцца адзін да аднаго...

Даведаўшыся пра гэта, Лена пачала хаваць сына ў суседзяў. Але дзіця — не іголка ў стозе сена, ды і не так складана знайсці ў вёсцы жывога — няхай і маленькага — чалавека.

І тады маці "вынайшла" нешта новае — стала ўвогуле вывозіць Васілька з вёскі: то пакіне яго ў сваякоў, то па якой-небудзь выдуманай прычыне адправіць да знаёмых у госці. Паспрабуй даведацца потым, куды адвезлі дзіця... Сяргей перажываў, але суцяшаў сябе тым, што сын падрасце і сам знойдзе магчымасць з ім бачыцца.

...Апошні раз Лена адправіла Васілька ў Валожынскі раён да сваякоў. Хлопчык, стомлены ад бясконцых "вандровак", вельмі не хацеў нікуды ехаць. Асабліва хваляваўся ён з-за таго, что не паспеў пабачыцца з бацькам, і той зноў не будзе ведаць, дзе яго шукаць. Пабыўшы крыху ў сваякоў, Васілёк пачаў з нецярплівасцю чакаць, калі ж хто-небудзь прыедзе па яго. Але ніхто не прыязджаў. Аднаго разу хлопчык адчуў сябе вельмі дрэнна — балелі горла і галава, ва ўсім целе адчувалася слабасць. Але ён нікому нічога не сказаў, не паскардзіўся, маўляў, падумаюць яшчэ, што хітруе... Толькі аднойчы адмовіўся вячэраць, злёг. Раніцай яго галава была цяжкай, нібыта чужой, хлопчык не змог падняцца — папрасіў толькі сваячку, каб хутчэй адвезла яго дадому. Тая вырашыла не рызыкаваць, а найхутчэй адправіць яго да маці.

Але і дома яму не стала лепш. Маці і бабуля ў мэтах "канспірацыі" — каб Сяргей, не дай Божа, не даведаўся, што сын тут — лячылі яго самі: паілі гарачым малаком з мёдам і маслам. Але Васільку рабілася ўсё горш... Спалохаўшыся, жанчыны выклікалі ўрача. "Дыфтэрыя", — канстатаваў той. Васілька забралі ў бальніцу, але было позна ўжо...

Можна зразумець, якое гора перажывала маці, калі на яе вачах памірала дзіця. Але нягледзячы на гэта, Лена не палічыла патрэбным параіцца з былым мужам, каб у будучым ён — крый Божа — не парашкаджаў выхаванню малога. Цяпер у Васілька няма будучага — у яго засталося толькі мінулае, скупое на радасці, поўнае дзіцячых слёз і недзіцячых перажыванняў. Калі ў апошнія гадзіны жыцця малы дапытваўся, чаму не прыходзіць тата, маці не магла сказаць яму праўды. А яна заключалася ў тым, што бацька проста не ведаў пра цяжкую хваробу сына.

Вяскоўцы, заўсёды такія чуйныя да суседскай бяды, не спачуваюць Лене, хоць смерць хлопчыка не пакінула абыякавым нікога. Што тут дадасі? Ад людскога суда не схаваешся. З людзьмі жыць, ім глядзець у вочы...

Зрэшты, на дыфтэрыю ў вёсцы хварэла яшчэ некалькі дзяцей, але ўсе яны сёння жывыя і здаровыя.

■

ПАРАДЫ ЎРАЧА

# Не спяшайся саграваццa

У Рэспубліканскі апёкавы цэнтр быў дастаўлены пацярпеўшы К. Урач, агледзеўшы яго, паставіў дыягназ: абмарожанне кісцей IV ступені . Першая дапамога, якую аказаў хворы сам сабе (саграванне рук у цёплай вадзе, расціранне іх), аказалася не толькі неэфектыўнай, але і шкоднай. У выніку развілася гангрэна, што прывяло да ампутацыі пальцаў кісцей. Малады чалавек стаў інвалідам.

Як папярэдзіць абмарожанне? Як правільна аказаць першую дапамогу? Якая лячэбная тактыка прымяняецца цяпер?

Узнікненне абмарожанняў залежыць не толькі ад нізкай тэмпературы навакольнага асяроддзя, але і ад скорасці ветру, і павышанай вільготнасці. Так, пры тэмпературы паветра мінус 20 градусаў і скорасці ветру 20 метраў у секунду ахаладжальная сіла асяроддзя прыраўноўваецца да мінус 52 градусаў па Цэльсію ў бязветранае надвор'е. Трэба мець на ўвазе і наяўнасць спадарожных захворванняў сасудаў канечнасцей: эндартэрыіт, атэрасклероз, тромбафлебіты, варыкознае расшырэнне вен, а таксама цукровы дыябет, launperaтамленне, стан алкагольнага ап'янення.

Пры абмарожванні спачатку адчуваецца холад, паколванне і пякота, затым паступова настае поўная страта адчувальнасці пацярпеўшага ўчастка цела. Часта скура набывае белы ці сінюшны колер. Нярэдка з'яўляюцца пухіры разнастайнай формы і велічыні. У цяжкіх выпадках адзначаецца амярцвенне тканак (гангрэна).

Як аказаць першую дапамогу пры абмарожанні? Галоўнае — не дапускаць хуткага саграванне. Даказана, што тканкі цела пры ўздзеянні атмасфернага холаду не гінуць, у іх "заміраюць", запавольваюцца абменныя працэсы, і пры аднаўленні тканкавай тэмпературы яны здольны вярнуцца да жыцця. Цёплае паветра, цёплая вада, дакрананне цёплых прадметаў і нават рук згубна ўздзейнічаюць на пераахалоджаныя тканкі, таму што ў размешчаных зверху слаях аднаўляецца абмен рэчываў, а замарожаныя тканкі, якія ляжаць глыбей, не забяспечваюць адэкватны кровазварот. Тканкі гінуць ад недахопу кіслароду.

Калі пацярпеўшага ўводзяць у цёплае памяшканне, на пераахалоджаныя рукі ці ногі трэба накласці ватна-марлевыя цеплаізалюючыя павязкі (можна выкарыстаць шалікі, кофты, коўдры ці іншыя падручныя матэрыялы). У гэтым выпадку саграванне тканак адбудзецца за кошт цяпла, якое прыносіцца токам крыві, і жыццядзейнасць будзе аднаўляцца адначасова з аднаўленнем крыватоку.

Вельмі важна забяспечыць нерухомасць пераахалоджаных пальцаў рук і ног, таму што іх сасуды вельмі ранімыя (пасля аднаўлення крыватоку можа адбыцца кровазліццё). Для імабілізацыі можна выкарыстаць любы падручны матэрыял: для кісці дастаткова кавалачка шчыльнага кардону, для нагі — кавалачка фанеры, дошчачкі. Запомніце, што пры абмарожанні ног нельга хадзіць. Для аднаўлення цяпла ў арганізме і паляпшэння кровазвароту трэба даць пацярпеўшаму гарачы чай, ежу.

Пры агульным пераахалоджанні са стратай прытомнасці асноўным у аказанні першай дапамогі з'яўляецца накладанне цеплаізалюючых павязак на рукі і ногі. Калі на пацярпеўшым абледзянелы абутак, не трэба старацца яго знімаць, а трэба ўхутаць ногі коўдрай, ватнікам і г.д. Не знімаючы цеплаізалюючых павязак, пацярпеўшага трэба тэрмінова даставіць у Рэспубліканскі апёкавы цэнтр. Ён размешчаны ў бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі па вул. Кіжаватава, 58.

Цяпер для лячэння абмарожання на ранніх стадыях прымяняецца ўнутрыартэрыяльнае і ўнутрывеннае ўвядзенне прэпаратаў, якія знімаюць сасудзісты спазм, раствараюць тромбы ў сасудах, паляпшаюць кровазварот у тканках, і прэпаратаў, што зніжаюць згусанне крыві.

Калі вы, паважаныя чытачы, сабраліся на лыжную прагулку, не прымяняйце тлушчы і мазі для змазвання скуры твару і іншых адкрытых частак цела. Даказана, што гэтыя сродкі не толькі не папярэджваюць абмарожанняў, а, наадварот, садзейнічаюць іх узнікненню, таму што пагаршаюць натуральную тэрмарэгуляцыю скуры.

Прымяняючы апісаны вышэй метад аказання першай дапамогі пры абмарожаных канечнасцях, а таксама своечасовую кваліфікацыйную ўрачэбную дапамогу, часта ўдаецца аднавіць кровазварот у пашкоджаных сегментах канечнасцей, пазбегнуць цяжкіх вынікаў абмарожанняў рук і ног, ампутацый і інваліднасці.

Халадовая траўма ва ўмовах Беларусі сустракаецца даволі часта, прычым інваліднасць пасля абмарожанняў дасягае 60-70 працэнтаў. Ужо на працягу лістапада і снежня праз Рэспубліканскі апёкавы цэнтр прайшло больш як 30 пацярпеўшых з абмарожанымі канечнасцямі, некаторым з іх зроблена ампутацыя розных сегментаў рук і ног.

Апісаная методыка ў лячэнні халадовых траўм з'яўляецца новай і мала ўкаранёна ў практыку. На жаль, мы часта бачым вынікі лячэння абмарожанняў па "старой" методыцы, асабліва ў раённых бальніцах, што часта прыводзіць да ампутацыі канечнасцей.

Цяпер намі рыхтуецца да выдання манаграфія "Абмарожанне канечнасцей", у якой асноўная ўвага ўдзелена этыялогіі, асновам патагенезу, клінічным праяўленням, дыягностыцы, аказанню першай дапамогі і лячэнню абмарожанняў, уключаючы і рэабілітацыю пацярпеўшых, якія перанеслі халадовую траўму.

Такая кніга выдаецца ўпершыню ў Беларусі і будзе карыснай для хірургаў, траўматолагаў, урачоў хуткай дапамогі, рэаніматолагаў, урачоў участковых і раённых бальніц, а таксама для фельчараў і студэнтаў медыцынскіх інстытутаў.

Заяўкі на кнігу просьба накіроўваць па адрасу: 220040, г. Мінск а/с 193.

А.ВОІНАЎ,
кандыдат медыцынскіх навук.

■

ЮБІЛЕІ

# Планета паэта

## Да 80-годдзя з дня нараджэння Аркадзя КУЛЯШОВА



Гётэ гаварыў: "Хто хоча зразумець паэта, павінен ісці ў краіну паэта". Я рызыкну перафразаваць: хто хоча зразумець краіну паэта, няхай ідзе ў яго паэзію.

Суровая і пяшчотная, светлая і трагічная, добразычлівая Беларусь паўстае перад кожным, хто датыкнецца да арыгінальнай і велічнай паэзіі Аркадзя Аляксандравіча Куляшова.

Так, Аркадзь Куляшоў вельмі рана набыў вядомасць і шырокае прызнанне. Паэт пісаў у сваёй аўтабіяграфіі: "У 1926 г., пасля заканчэння Саматэвіцкай сямігодкі, я працягваў вучобу ў Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме. У тыя гады Мсціслаў быў своеасаблівым цэнтрам пачынаючых паэтаў і празаікаў, якія групаваліся вакол студыі "Маладняка" — самай масавай тагачаснай літаратурнай арганізацыі ў Беларусі. Тут я пазнаёміўся з таленавітымі паэтамі Юліем Таўбіным і Змітраком Астапенкам, вершы якіх ужо друкаваліся тады ў цэнтральных газетах і часопісах... Хутка рэспубліканская камсамольская газета "Чырвоная змена", а пасля часопісы "Полымя" і "Маладняк" пачынаюць друкаваць мяне".

У шаснаццаць год А.Куляшоў выдаў свой першы зборнік вершаў "Росквіт зямлі".

З кожнай новай кнігай, новай паэмай — а іх за ўсё сваё творчае жыццё А.Куляшоў напісаў каля дваццаці — расла яго папулярнасць сярод чытачоў. Але гэта яго не спакушала...

...Пачалася Вялікая Айчынная вайна, а праз год выспела задума паэмы "Сцяг брыгады". Рытм, як выявілася, быў на дзіва рухомы і ёмісты, адразу паказаў новыя магчымасці, якія выкрасаліся ў сутыкненні з вайной — жыццём, поўным пакут і гора народнага...

...Зімой 1942 г. у адной маскоўскай кватэры сабраўся сяброўскі гурт пісьменнікаў паслухаць беларускага паэта Аркадзя Куляшова, які прыбыў з фронта з новай паэмай у палявой сумцы.

Першае знаёмства з гэтым творам было самым яркім літаратурным успамінам для ўсіх, хто тады слухаў паэму.

*Як ад роднай галінкі*
*дубовы лісток адарваны,*
*Родны Мінск я пакінуў,*
*нямецкай бамбёжкаю гнаны...*

Гэта былі першыя радкі паэмы "Сцяг брыгады", неўзабаве перакладзенай М.Ісакоўскім на рускую мову.

Паэма "Сцяг брыгады" — не толькі своеасаблівае падарожжа па вайне, але і незабыўны летапіс аднаго з нялёгкіх яе этапаў. Вядомы беларускі паэт Ніл Гілевіч у сваім выступленні на адным з пісьменніцкіх з'ездаў прывёў такі факт. Былы партызан, чарнагорскі паэт Радаван Зогавіч расказваў яму эпізод з мінулай вайны. Савецкі самалёт даставіў югаслаўскім партызанам боепрыпасы, медыкаменты і разам з імі некалькі кніг пра вайну, у тым ліку паэму А.Куляшова "Сцяг брыгады" ў перакладзе на рускую мову. "Паэма, — успамінаў Р.Зогавіч, — літаральна ашаламіла мяне. Я чытаў яе і перачытваў многа разоў. Чытаў таварышам па зброі, якія трохі разумелі рускую мову, для тых, хто не разумеў, асобныя мясціны сам перакладаў на сербскую. Гэта была паэзія, якая радніла нас з савецкімі братамі — радніла ў нянавісці да фашыстаў і ў веры ў перамогу...". Назаўсёды запалі ў сэрцы слухачоў таксама такія творы франтавога паэта, як "Балада аб чатырох заложніках", "Над брацкай магілай", "Маці", "Адказ", "Алёнка".

Мужнасць і гераізм народа, яго боль і гнеў перададзены ў творах А.Куляшова ваеннага часу з выключнай палымянасцю і глыбінёй. Нават і сёння, калі зарубцаваліся раны, нарадзіліся і выраслі новыя пакаленні, якія не бачылі жахаў вайны, нельга чытаць без хвалявання куляшоўскі "Ліст з палону" — трагічны маналог беларускай дзяўчыны, сілком вывезенай у Нямеччыну. І сёння халодзіць душу жалобнаўрачысты рэквіем паэта над магілай беларускіх хлопцаў, што сумленна склалі галовы пад рускай вёскай Лажыны.

Шчодры ўклад паэта ў пасляваенную беларускую літаратуру. Ён напісаў дзесяткі паэм, што славяць гераічную працу народа, які ўзнімаў рэспубліку з руінаў і папялішчаў, будаваў новае жыццё, змагаўся за мір і шчасце ўсіх людзей зямлі... А пераклады А.Куляшова! Яны высокія па майстэрству: "Мцыры" і "Дэман" Лермантава, "Спеў аб Гаяваце" Лангфела, "Энеіда" Катлярэўскага, паасобныя вершы і паэмы Пушкіна і Шаўчэнкі, Маякоўскага і Ясеніна, Гамзатава і Малышкі. Адной з самых высокіх узнагарод, якія атрымаў народны паэт Беларусі Аркадзь Куляшоў за сваю творчую дзейнасць, — Дзяржаўнай прэміі БССР, — ён удастоены за заслугі ў галіне паэтычнага перакладу.

Выдатныя сваёй строгай сілай вершы А.Куляшова сталых гадоў. Яго позняя лірыка глыбокая і цнатлівая, у ёй многа думак і ў той жа час пранікнёнай эмацыянальнасці, нягледзячы на знешнюю стрыманасць. Духоўны вопыт "Новай кнігі" дапамог яму ўвайсці ў сэрца сучасніка, зазнаць і перадаць гордасць за паўнату жыцця новага чалавека — чалавека працы...

Пранізліва ясны "Маналог" — размова не толькі з сябрамі, якія загінулі вельмі маладымі, але і напамінак-засцярога для жывых. Паэма "Цунамі", узнятая на трагічнай хвалі роздуму, каб ператварыцца ў гімн бессмяротнасці "жыцця людскога". Нарэшце, "Варшаўскі шлях" — можа, найбольш гарманічнае і суразмернае тварэнне паэта, хоць кожны яго радок выбухае горам і гневам усіх небяспек на чалавечых дарогах.

Паэтычная трагедыя А.Куляшова "Хамуціус" — адметная з'ява ў нашай літаратуры, рэч непаўторнай сілы і характва.

Паэзія Куляшова ўзбагаціла многія жанры музыкі, жывапісу, графікі.

Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ.

■

ТЫДЗЕНЬ ПА ГАРАСКОПУ

## 7-13 лютага



### ВАДАЛЕЙ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Праяўляйце больш характару ў гэты дзень. Будзьце актыўнымі на працы.

**АЎТОРАК.** Цудоўны час для прадукцыйнай разумовай дзейнасці. Пазбягайце сутычак з ахоўнікамі парадку.

**СЕРАДА.** Поспех ва ўсіх вашых пачынаннях.

**Чацвер.** У гэты дзень карысныя прагулкі на свежым паветры.

**ПЯТНІЦА.** Удача на працы.

**СУБОТА.** Звярніце ўвагу на сваю нервовую сістэму. Поспех у інтымным жыцці. Не злоўжывайце алкаголем.

**НЯДЗЕЛЯ.** Займіцеся спортам у гэты дзень.

### АВЕН

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Вам трэба звярнуцца па дапамогу да сваіх сяброў, каб вырашыць усе праблемы.

**АЎТОРАК.** Магчымы прыбытак у матэрыяльнай сферы, але ўсё будзе залежаць толькі ад вас.

**СЕРАДА.** Спрыяльны час для заняткаў спортам.

**ЧАЦВЕР.** Поспех у развіцці дзелавых сувязей. Беражыцеся захворванняў.

**ПЯТНІЦА.** Удача ў каханні.

**СУБОТА.** Будзьце асцярожнымі ў гэты дзень у фінансавай сферы і ў сям'і.

**НЯДЗЕЛЯ.** Ад вас патрабуецца настойлівасць у вырашэнні сардэчных спраў.

### ЦЯЛЕЦ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Нягледзячы ні на што, вы зможаце дабіцца жаданага выніку.

**АЎТОРАК.** Цудоўны дзень для вялікіх здзелак. Устрымайцеся ад паспешлівых рашэнняў.

**СЕРАДА.** Займіцеся хатнімі справамі.

**ЧАЦВЕР.** Магчымы фінансавы поспех, калі вы не будзеце ні з кім канфліктаваць.

**ПЯТНІЦА.** Пастарайцеся не сварыцца са сваімі блізкімі, каб у далейшым не шкадаваць.

**СУБОТА.** Звярніце ўвагу на сваё здароўе.

**НЯДЗЕЛЯ.** Спрыяльны час для любоўных зносін. Удача ў бізнесе.

### БЛІЗНЯТЫ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Асцерагайцеся непрыемных выпадковасцей, сварак.

**АЎТОРАК.** Не давярайце сваім знаёмым у гэты дзень, каб у далейшым не шкадаваць.

**СЕРАДА.** Непрыемнасці ў асабістым жыцці, але хутка становішча палепшыцца. Наведайце царкву.

**ЧАЦВЕР.** Звярніце ўвагу на сваіх дзяцей. У каханні поспех працэнтаў на 50.

**ПЯТНІЦА.** Цудоўны дзень для змены месца працы.

**СУБОТА.** Не перанапружвайце сваю нервовую сістэму і сэрца.

**НЯДЗЕЛЯ.** Поспех ва ўсіх вашых пачынаннях.

### РАК

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Можаце разлічваць на дапамогу родных і знаёмых. Пазбягайце высвятлення адносін з супрацоўнікамі.

**АЎТОРАК.** Будзьце асцярожнымі ў фінансавых аперацыях.

**СЕРАДА.** Пастарайцеся пазбегнуць крызісных сітуацый у сям'і. У каханні ўсё залежыць толькі ад вас.

**ЧАЦВЕР.** Больш часу праводзіце на свежым паветры.

**ПЯТНІЦА.** Непаразуменні ў каханні. Стрымлівайце свае эмоцыі.

**СУБОТА.** Займіцеся творчай дзейнасцю ў гэты дзень.

**НЯДЗЕЛЯ.** Могуць ажыццявіцца вашы планы, калі вы будзеце больш настойлівымі.

### ЛЕЎ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Не давярайце ўсяму, што вам скажуць.

**АЎТОРАК.** Магчыма павышэнне на працы.

**СЕРАДА.** Цяжкасці з новымі знаёмствамі. Беражыце свае нервы.

**ЧАЦВЕР.** З'явяцца шанцы на поспех у бізнесе.

**ПЯТНІЦА.** Спрыяльны час для любых пачынанняў. Будзьце ўпэўненымі ў сабе.

**СУБОТА.** Магчыма матэрыяльная падтрымка з нечаканых крыніц.

**НЯДЗЕЛЯ.** Не ўвязвайцеся ў рызыкоўныя мерапрыемствы.

### ДЗЕВА

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Не страчвайце ўпэўненасці ў сабе. Сардэчныя справы стабілізуюцца.

**АЎТОРАК.** У інтымных адносінах шмат будзе залежаць ад вас. Звярніце ўвагу на сваё здароўе.

**СЕРАДА.** Устрымайцеся ад паспешлівых рашэнняў. Нічога сур'ёзнага не плануйце ў гэты дзень.

**ЧАЦВЕР.** Займіцеся спортам.

**ПЯТНІЦА.** Лепш не рызыкаваць грашыма. Магчыма павышэнне на працы.

**СУБОТА.** Няўстойлівыя адносіны ў сям'і.

**НЯДЗЕЛЯ.** Будзьце ўважлівымі ў дарозе. Сачыце за сваімі дзецьмі.

### ШАЛІ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Магчымы канфлікты з калегамі і суседзямі. Кантралюйце свае эмоцыі.

**АЎТОРАК.** Будзьце асцярожнымі ў гэты дзень на працы, каб ні з кім не пасварыцца.

**СЕРАДА.** Пераменны поспех у сардэчных справах.

**ЧАЦВЕР.** Магчыма, што перад вамі адкрыюцца новыя далягляды. Эканомце сілы і беражыце нервы.

**ПЯТНІЦА.** Фінансавае становішча залежыць толькі ад вас. Поспех у каханні.

**СУБОТА.** Не рызыкуйце лішні раз нічым. Могуць узнікнуць грашовыя праблемы. Імунная сістэма аслаблена.

**НЯДЗЕЛЯ.** Нестабільнасць у сферы бізнесу. З вамі могуць абысціся несправядліва. Не адказвайце тым жа.

### СКАРПІЁН

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Пастарайцеся пазбегнуць крызісных сітуацый у сям'і.

**АЎТОРАК.** Стабілізуецца становішча на працы. Спрыяльны час для бізнесу.

**СЕРАДА.** Можаце разлічваць на дапамогу родных і блізкіх знаёмых. Пазбягайце сварак з супрацоўнікамі.

**ЧАЦВЕР.** У гэты дзень вам лепш адправіцца ў падарожжа.

**ПЯТНІЦА.** Цяжкасці ў асабістым жыцці. Карысна наведаць царкву.

**СУБОТА.** Пастарайцеся нічога сур'ёзнага не планаваць у гэты дзень.

**НЯДЗЕЛЯ.** Будзьце ўпэўненымі ў сабе. У інтымных адносінах многае будзе залежаць ад вас.

### СТРАЛЕЦ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Наведайце сваіх сяброў у гэты дзень.

**АЎТОРАК.** Калі вы будзеце настойлівымі, то зможаце дабіцца жадаемага выніку на працы.

**СЕРАДА.** Звярніце ўвагу на свае недахопы. Пазбягайце рызыкі і лішніх гутарак.

**ЧАЦВЕР.** Поспех у каханні.

**ПЯТНІЦА.** Праяўляйце больш характару ва ўсім. У бізнесе вашы шанцы 50 х 50. Будзьце асцярожнымі: магчымасць захворвання.

**СУБОТА.** У гэты дзень вам лепш сустрэцца з сябрамі.

**НЯДЗЕЛЯ.** У інтымных адносінах многае будзе залежаць ад вас.

### КАЗЯРОГ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Устрымайцеся ад вялікіх пакупак. Могуць узнікнуць цяжкасці са здароўем.

**АЎТОРАК.** Пазбягайце крызісных сітуацый у сям'і.

**СЕРАДА.** Стрымлівайце сябе ва ўзаемаадносінах з калегамі па працы.

**ЧАЦВЕР.** Не слухайце ніякіх плётак у гэты дзень, каб пазбегнуць непаразуменняў.

**ПЯТНІЦА.** Могуць вырашыцца многія важныя для вас справы, калі вам дапамогуць сябры.

**СУБОТА.** Больш часу праводзіце за горадам, на свежым паветры.

**НЯДЗЕЛЯ.** Поспех у бізнесе і ў каханні.

### РЫБЫ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Спрыяльны час для здзелак.

**АЎТОРАК.** Поспех ва ўсіх вашых пачынаннях.

**СЕРАДА.** З'явіцца шанц на ўдачу ў інтымным жыцці.

**ЧАЦВЕР.** Магчымы нечаканы фінансавы ўздым. Нягледзячы ні на што, вы зможаце дабіцца жаданага выніку.

**ПЯТНІЦА.** Вам лепш не рызыкаваць у гэты дзень ні ў чым.

**СУБОТА.** У асабістым жыцці многае будзе залежаць ад вас.

**НЯДЗЕЛЯ.** Будзьце асцярожнымі з агнём.

# Крыжаслоў



### Перакладзіце на беларускую мову

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ**: 5. Воздух. 6. Ромашка. 8. Козырек (фуражки). 9. Обезьяна. 10. Окрестность. 14. Север. 17. Бутылка. 18. Молния. 19. Сарай (для скота). 20. Обои. 22. Счет (бухг.). 25. Платок. 26. Снаряд. 30. Поцелуй. 32. Чешуя. 33. Мех. 34. Невестка (жена мужниного брата). 35. Платье (женское).

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Волна. 2. Землекоп. 3. Рубашка. 4. Янтарь. 5. Зонт. 7. Копейка. 11. Кофе. 12. Колыбельная. 13. Говядина. 15. Лакомство. 16. Акробат. 21. Строительство. 23. Уклон. 24. Белка. 27. Заём. 28. Цепь. 29. Клад. 31. Уста.

Даслала Лілія КАЖЭЎКА, г.Мінск.

### Адказы на крыжаслоў, змешчаны ў № 11

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 8. Прыродазнаўства. 11. Квас. 12. Норд. 14. Аспід. 16. Экспарт. 17. Адвакат. 20. Карст. 22. Барытон. 23. Атэль. 24. Адуванчык. 25. Ніжнікава. 27. Сопка. 29. Семінар. 30. Асада. 34. Эскадра. 35. Парытэт. 36. "Свяцк". 39. Імжа. 40. Урал. 42. Землекарыстанне.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 2. Траверс. 3. Адэса. 4. Узурпацыя. 5. Раунд. 6. Эстрада. 9. Александроўская. 10. Караблеваджэнне. 13. Эпас. 15. Жарт. 18. Карыфей. 19. Новікаў. 21. Траса. 23. Авіза. 26. Мініяцюра. 28. Клан. 31. Смык. 32. "Трамбня". 33. Кабатаж. 36. "Садко". 37. Курск.

ПА ДУГАХ: 1. Грэбля. 7. Звонак. 38. Парсек. 41. Антэна.

